PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1811) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 3 ЛЮТАГА 1991 г ЦАНА 800 зл. (50 кап.)



*Казкі атрымалі дзеці з Трасцянкі.*

## З КНІЖКАМІ ДА ДЗЯЦЕЙ

10 студзеня на Беласточчыну завітала дэлегацыя сяброў Таварыства беларускай мовы і Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“. Прыехалі Яўген Цумараў (намеснік старшыні ТБМ, дэпутат ВС БССР), Мікола Міхноўскі (сакратар ТБМ), Алесь Багдановіч (сакратар ТБМ), Барыс Родзіч, Міхал Слямнёў (старшыня камісіі ВС БССР па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах), Уладзімір Ягоўдзік (рэдактар новай газеты „Дзеці і мы“), Дзмітры Лупач, Яўген Лецка (старшыня Рады „Бацькаўшчыны“), Віктар Лазар старшыня гаспадарчай камісіі „Бацькаўшчыны“), Алесь Шатун. Прывезлі з сабою падарунак дзеткам, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых школах Беласточчыны: тры з паловаю тысячы экземпляраў „Беларускай народнай казкі“. Кніжку выпусціла летась мінскае выдавецтва „Юнацтва“, здаецца таксама, што з цягам часу яна будзе дадрукоўвацца: поўны яе тыраж замыкаецца лікам 270 000 (!). ТБМ закупіла столькі, каб хапіла кожнаму дзіцяці, што вывучае беларускую мову на Беласточчыне. Акрамя казак, госці з Мінска прывезлі таксама каля тысячы кніжак для ліцэістаў, сабраных суполкамі ТБМ і студэнтамі.

Першага дня госці пабывалі ў Бельску. Уражанні ад наведання бельскай „тройкі“ і ліцэя засталіся ў іх надзвычай прыемныя і падбадзёрваючыя, як самі мне казалі. На другі дзень, у пятніцу, аўтобус з кніжкамі ўзяў „гайнаўскі напрамак“. З мінчанамі выбраліся на шлях сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк і я. Быў намер, каб па дарозе ў Гайнаўку заехаць ва ўсе школы, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы. Намер рэалізавалі толькі часткова. Заехалі ў школы ў Трасцянцы, Нарве і Крыўцы. З Крыўца паехалі адразу ў Гайнаўку, каб паспець у ліцэй яшчэ перад заканчэннем урокаў. У Трасцянцы вучні аддзячылі за падарунак дэкламацыяй беларускіх вершаў, таксама ў Нарве. У школу ў Крыўцы госці зайшлі толькі на хвілінку, але мінскі аўтобус выклікаў надзвычайнае зацікаўленне вясковых дзядзькоў і цётак. Пачалася гамонка пра жыццё-быццё тут і там, вельмі сардэчная, і мінскія госці да таго расчуліліся, што абдаравалі казкамі ўсіх прысутных, гэта значыць, цалкам дарослых вяскоўцаў! У добрым настроі рушылі ў Гайнаўку. Па дарозе Яўген Цумараў сказаў мне, што ТБМ мае намер скамплектаваць невялікую бібліятэчку кожнаму выпускніку пачатковай школы, які вывучае беларускую мову: пяць-дзесяць кніжак, самых лепшых як па сваіх мастацкіх якасцях, так і па выдавецкім узроўні. А Мікола Міхноўскі дадаў, што ТБМ намерана рабіць падобныя візіты і ў будучыні, калі толькі на кніжным рынку ў Беларусі пакажацца нешта так годнае ўвагі і добра выдадзенае, як „Беларуская народная казка“. Уладзімір Ягоўдзік распавядаў мне пра новую газету — „Дзеці і мы“, — якая неўзабаве будзе выходзіць у Мінску пад яго рэдактарствам. У газеце ахвотна бачылі б звесткі з Беласточчыны, асабліва з жыцця беларускіх школьнікаў.

Дырэктар гайнаўскага ліцэя Аляксандр Іванюк меў да наведвальнікаў і да Віктара Стахвюка прэтэнзіі (і слушныя!), што прыязджаюць абсалютна нечакана, без папярэджання, калі ўжо канчаюцца ўрокі і немагчыма наладзіць сустрэчы з

(Працяг на стар. 6)

## ЗАЯВА

**пасла ЯЎГЕНА ЧЫКВІНА, зробленая на пасяджэнні Сейма 12 студзеня 1991 г.**

Апошнім часам у выказваннях паслоў і ў публікацыях — яўных і сакрэтных — вяртаецца пытанне Беласточчыны і пражываючага там беларускага насельніцтва. З жалем мушу сцвердзіць, што і з сеймавай трыбуны выказваліся апошнім часам словы, якія абражаюць гэтае насельніцтва.

Як праваслаўны беларус хачу заявіць:

**Па-першае:** мы з'яўляемся народам, у якога ёсць уласная свядомасць і культура, а як грамадзяне польскай дзяржавы маем, як і іншыя, неад'емнае права на паводзіны, згодныя з уласным сумленнем;

**Па-другое:** тэрыторыя сённяшняй Беласточчыны ў XVI і XVII ст.ст. была адным з важнейшых цэнтраў культурнага і палітычнага жыцця ў Вялікім княстве Літоўскім. Супрасль, Заблудаў, Бельск-Падляшскі, Драгічын — гэта мясцовасці, у якіх існавалі школы, вялікія праваслаўныя манастыры, працавалі друкарні. Складаная і нялёгкая гісторыя гэтай зямлі, на шчасце, не была абцяжарана нацыянальнымі канфліктамі, маштаб якіх у нейкай ступені набліжаўся б да тых, якія ўзнікалі на сумежжы Польшчы і іншых суседніх народаў. Сёння не толькі мова, культура і веравызнанне пражываючага ў гэтым рэгіёне насельніцтва вылучаецца ад рэшты краіны. Адрозніваюць яго, на жаль, факты, якія глыбока трывожаць людзей, для якіх гэта зямля з'яўляецца малой айчынай.

Гэтыя факты то патуханне прадукцыйнай актыўнасці гэтых земляў, масавая перадача сялянамі ўласнай зямлі ў дзяржаўны фонд і сапраўдная дэмаграфічная катастрофа беларускай вёскі.

Дыспрапорцыя развіцця гэтага рэгіёна, у параўнанні з рэштай краіны, а нават з другой, заходняй часткай ваяводства, бачна голым вокам і пастаянна яна паглыбляецца. Прычынай гэтага не ёсць напэўна меншая працавітасць, кепская арганізаванасць ці колькасць поту, пралітага беларускім селянінам, які масава пакідае сёння сваю бацькаўшчыну — той кавалак зямлі, на якім насуперак усім перашкодам трываў ад вякоў.

У сваім сеймавым выступленні 16 лістапада 1989 г. я хацеў звярнуць увагу Высокай Палаты і Урада на сапраўдныя і найбольш тэрміновыя праблемы гэ-

(Працяг на стар. 2)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 376


# МІРА ЛУКША

*М. Р.*

як страшна калі адным словам
схочаш выкрасліць тое
што было —
і сонечнае захапленне маем
і дождж што нашы слёзы змыў
і абразы што ў сэрцы зацвіталі
пад пэндзлем і ў вачах раслі
і кніжкі што дарылі мы
няўмела
за дружбу вечную складалі
на алтар
на вогнішча што трапяткім
жыло

згарэлі мы згарэла ўсё датла
і сівы попел пад расой нямее
і нельга нам ніколі ўжо зайсці
куды і жрэц мог толькі раз
заглянуць
памыты чыста і ў адзенні белым

не мы ўжо і не мы тады былі
загледжаныя з верай у сябе
часам бязлітасным параненыя
птушкі

*20.12.1990 г.*

✲

а калі
выплывуць з мяне
ўсе словы
як паводка крыві
паўнаводдзе
выступіць з берагоў
заліе вёскі
лугі і паплавы
пад лес падыйдзе

баюся
што скажу сябе заўся

безабаронная
пад высокім небам
без лета

✲

Я хачу ў тваім сне звіць гняздо
палажыць яго пяшчотна
на галінкі пальцаў
пасеяць літары-расінкі
на словы-лісце словы-кветкі
карэнне сочных дрэваў-слоў
у глыбокім сне вільготнай
пушчы

# САКРАТ ЯНОВІЧ

## Пад канец

*Бліжэй канца, больш бяссэнсу? Нясмутна паміраць, няшкода адыйсці са свету... Нашто ты на ім?!*

*Жыць трэба. Без цябе іншыя застануцца, тваім лёсам пазначаныя (ад іх — наступныя гэтак жа). З табою не скончыцца вясна, не сатлее лета, не аціхне ветравей у лістападдзе і снег не ўчарнее.*

*Беларусь збеларусее.*

*Дух — не хлеб. Унук патомны ў Сан-Францыска, з сэрцам у айчыне. Гэткае немагчымае ў Сібіры. Там і душы канаюць. Не заблудзіся ў той бок, сыне родны!*

*Я — жыццё, бо я — смерць. Варвар баіцца скону. Неразумны. Як жа ісці, не канаючы? Ніхто ж не пачынаецца з нічога. Адзін Бог бясконцы. Кім жа ты пры ім? Будзь сабою і не болей. Усё было. Усё будзе. Не здумай быць першым і апошнім. Пастарайся не стацца дурнем. Гэта не надта цяжка. Хоць і нялёгка. Глупствы бяруцца, пераважна, ад неахвоты.*

*Хрыстос несмяротны. Фараонаў бальзам захаваў. Сталін недзе валяецца. А па рабе божым чэрап і падэшвы гумавыя знаходзяць магільшчыкі. Ды якая розніца, кажуць абарыгены.*

*(у жніўні '90)*

## Узнікненне і заняпад Ангельскай

**Бадай што і няма ў гэтым горадзе больш задрыпанай за Ангельскую вуліцы. Сюды звалаклася калісьці басота з Царства Польскага, што пачыналася за лапскай Нарваю. Прываблівалі яе заробкі на жыдоўскіх ды нямецкіх фабрыках, якія муравалі на падсушаных багонцах над Белаю. Была работа таксама на вузлавой станцыі пецярбургска-варшаўскай чыгункі. У тутэйшай Літве набіраліся тыя палякі патрыятызму падпанкаў. Будучы людзьмі бывалейшымі, жылося ім адразу лепей. Набывалі, зазвычай, дзялку пад шаляваны дамок з ганачкам. Садзілі пару яблынькаў ля вокан і вішні ў плоце. Хлеўчык для парасяці, трусоў, галубоў і на вугаль збівалі збоч ад загонікаў (дзеля меншага снегу і большага цяпла ўім апланоўвалі дзверы на поўдзень). Прыбіральню хавалі ад людскіх вачэй у малінавы закутак.**

**З беларускімі тубыльцамі яднаў іх спачатку касцёл і той самы ксёндз. Гаспадары з Беласточка, Бацечкаў, Старасельцаў, Антанюка, Дайлідаў і Выгоды ганялі дочак ад тых лайдакаватых кавалераў; сыноў палохалі „пранцамі“, калі каторы ўтрэскаўся ў салодкую фахоўку. Вёску дакanала, аднак, не тое; варочаць плугам скібы зямлі цяжэй, чым майстраваць, і чамусьці меншы кус хлеба, трымаючыся поля і стадолы... Мястовасць узяла верх, а з ёю і Царства Польскае.**

**На Ангельскай зайгралі сялянска-работніцкія вяселлі. За пасажныя гектары ды местачковай натугаю закрасавалі, бы мухаморы ў шэрані, камянічкі з паддашкамі для кватарантаў. Елі пабагацелыя, можа, не па поўніцы, але і не шкадуючы сабе занадта. Гароўныя маладзіцы дагаджалі пралетарскім выбраннікам (хадзілі тыя ў скрыпучых афіцэрках і ў галіфэ). Здараліся і прымакі, няшчасныя лапцюжнікі. Затое былі ў іх два выйсці: або запівацца па-фурманску і лейцамі вучыць розуму фанабэрлівую бабу, або свету не бачыць у пагоні за грашыма і нясваіх дзяцей гадаваць.**

**Горад брыняў, займаючы палеткі. Трубілі на работу ў ранкі, на абед і ў адвячоркі дамоў. Пабрукавалі былі: Аляксандраўскую, Мікалаеўскую, Пушкіна, Базарную. Туды і павялі вадаправод (пра каналізацыю яшчэ не чулі). А доўгую вулачку гэтую пачалі называць жа Ангельскай пасля таго, калі высыпалі яе жужалем; праехаў ёю аўтамабіль з якімсьці ангельцам, як казаў іванаваты ступайка.**

**Людзям, аднак, усё кепска. Не было і не будзе ім добра. Збурыліся раптаць на фабрыкантаў, біць вокны ў палацах, падымаць вэрхал. Жандары з казакамі — ужо не страх. Пакаціліся войны, адна за адною. І каго толькі ліхі не прыводзіў сюды, на Ангельскую; адно японцаў не пабачылі. У франты і паходы стралялі мужчынаў, калі каторы выдаўся пад шпіёна. Цікавых кавалерыі красуняў адпускалі з жыватамі (пакачаныя ўланамі вучаніцы варочаліся растапыранымі). Марадзёры дырдыганілі куфры ды захаванкі; грабасталі шкатулкі. Была Расея, прыйшла Нямеччына, мільганула Беларусь, з'явілася Польшча: чарга зноў паўтарылася потым (настолькі іначай, што загавелі душою жыды і прапалі немцы, а начальнікі і крамнікі пасмакавалі Сібіры).**

**Ва ўстаялы камунізм пагнілі платы на Ангельскай. У падзічэлых садках з удовінымі хатамі вуліца павяскавела. Моладзь з даваеннага прыплоду, паканчаўшы школы ды ўбіўшыся на службу, перабралася ў бясклапотныя блокі. Ажывала Ангельская ў мярліны; з'язджаліся парэпаныя аўты, тратуарныя панкі з кватэрнымі панюсямі і жулікаватымі смургелямі; тапталіся, бы жабракі ў прытворы, бесфасонныя сваякі з хамуцкага загароддзя. Пасля чаго сядзіба зарастала чартапалохам (купцоў на яе не знаходзілі). Ажно ў нашы дні ўтрамбаваў усенька пад сябе новы, з прэтэнзіямі на метраполію, горад; напоўз ён ад цэнтру.**

**(28.XI.—31.XII.1990 г.)**

## Галячыха

**Сорамна мне, што не магу ўспомніць імя Галячыхі... Была ўся з дабрыні. Памерла і забылі пра яе. Гаварылі пра ейнага чалавека, пра сыноў. Па бацьку ўдаліся яны, не скажу, каб бандытамі, але хлопцамі жулікаватымі ад малога. Кожны з трох набраўся ад старога чагосьці аднаго. Большы падаўся ў свет разбойнікам ды прапаў дзесьці ў Польшчы (казалі: пазнанцы ўтапілі яго ў рэчцы). Сярэдняга згубілі бабы; шафёрыў на далёкіх маршрутах іназаводзіў каханак, чаго не стрывала ягоная мазурская жонка (зарэзала кухонным нажом, падлу). Меншы піў, ці не ад самюткага дзяцінства. Пачынаў з бацькам. Калі той пайшоў за савецкую граніцу невядома чаго і больш не вярнуўся, сеў Віценька на матчын грош.**

**Скакаў біцца да яе, як толькі не меў за што схадзіць да патаемкі. Яна ўцякала тады з хаты да нас. Рабіла гэта так, што мы пра нішто не здагадваліся. Прыходзіла, бывала, што ні дзень з вечарам. Прасілася чамусьці ў ванны пакой, усенька разглядаючы ў ім з нейкім варварскім прыстрахам... Ажно ўгледзелі, як заходзілася яна там нямым плачам па Віценьку, які адпіў здароўе і забралі яго ў павятовы шпіталь.**

**Пакуль жыў дажываючы ён, чыпела і яна. Пахавала яго перад Калядамі, у белавокую, адліжную, снегавіцу. Зіму перазімавала, каб легчы ў зямлю ў цёплы і зялёны поўдзень, неяк пасля Юрыя. А калі варочаліся ўсе з могілак, знецярплівелыя пакрысе жалобнасцю ў такую ясноту палёў, нехта сказаў пра нябожчыцу: не сцярпела харошасці без Віценькі...**

**(лістапад '90)**

## Краявід у асенні адвячорак

**Хаты за агародамі з капусцянікамі. Тэлевізійныя антэны ў імгле бабінага лета, бы аголеныя страхі на вераб'ёў у маку. У векавечных прыгуменнях балаган з іржавеючага жалеззя і ўцекачом адтуль пыхкае трактар у мёртвым завулку. Вые сабака пад ганкам з выбітым ваконцам. Вечарамі брэша яшчэ адзін, у бок Падбагонніка. Ніхто не ганяе іх; новыя п'яніцы — не раўня старым, якія адыйшлі на той свет з песнямі салдацкімі. Няма сварак; адны ўдовы засталіся, шматдзетныя без дзяцей.**

**Мястэчку ўжо не вярнуцца да сябе. Занадта вялікім яно было калісьці. І людзі не тыя цяпер у ім: здаволеныя, што ёсць хлеб ды чарка ў свята. Галота, якая перастала галадаць. Абадранцы выфранціліся. Кутнікі адгрукалі асабнякі сабе. Такія не адновяць гарадскі быт. Рабацяшчыя не ствараюць жа таго, што культураю завецца. Не бывае ў іх часу дзеля гэтага. Значыць, і таленту.**

**Я доўга не цяміў, чаму вытрэшчваюцца ў мястэчку ў тэлевізары, неяк стоена ўсеўшыся перад імі пасля мазольнага дня. А гэта ж так свет падгледжваюць, не разумеючы яго.**

**Сіроты космасу. Інфанты лёсу.**

**(лістапад '90)**

# „Берасцейскае вогнішча"

Дзесяць гадоў таму назад (13.I.1981 г.) створана было ў Брэсце абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Напярэдадні сваёй юбілейнай даты, 12 студзеня 1991 г., літаратары Брэстчыны наладзілі ў Доме палітасветы літаратурны вечар „Берасцейскае вогнішча". Арганізатары вечара запрасілі на сваё свята спевакоў-бардаў і оперных спевакоў, народны ансамбль песні і танца „Бярэсце", спеўны гурт „Агмень" і ансамбль гарманістаў „Лявоны", а таксама артыстаў драматычнага і лялечнага тэатраў. У фае Дома былі наладжаны мастацкая і кніжная выставы. Тысячную публіку, запоўніўшую шчыльна глядацкую залу, і выступаўшых на сцэне ўсіх удзельнікаў і запрошаных гасцей запісала ў сваю памяць беларускае тэлебачанне.

Як бачым, дзесяцігоддзе пісьменніцкай арганізацыі адзначалася з вялікім размахам. Хоць вечар быў дабрачынны (па білетах), прыйшло шмат прыхільнікаў прыгожага беларускага пісьменства. Гэта факт паказальны. Гледачы цёпла віталі сваіх землякоў, выдатных майстроў слова: Ніну Мацяш, Алеся Разанава, Уладзіміра Калесніка, Міколу Пракаповіча, Алеся Каско і многіх іншых, бо пісьменніцкі брэсцкі гурт на сёння і вялікі і багаты сваімі дасягненнямі.

Ад беларускай літаратурнай арганізацыі ў Польшчы на „Берасцейскае вогнішча" запрошаны быў Ян Чыквін. **(яч)**

татары заходняй рэлігійнай думкі, прапускалі яе праз фільтр усходняй традыцыі, ствараючы такім чынам новую форму праваслаўнай думкі. Інакш кажучы, тут была пераасэнсавана праваслаўная дактрына ў яе ўзаемадачыненнях з заходняй культурай. У XVI стагоддзі Супрасль — гэта вялікі палемічны цэнтр, які змагаецца супроць латынізацыі Царквы. Роля Супрасля як цэнтра кнігадрукавання не паменшала і пасля пераходу супрасльскіх манахаў ва уніяцтва. Можна сказаць, што ў XVII стагоддзі ў Супраслі была самая вялікая беларуская друкарня ўсяго дасавецкага перыяду гісторыі Беларусі. Супрасльскія выданні, безумоўна, зоймуць цэнтральнае месца ў „Гісторыі кніжнай культуры Падляшша".

*— Дзе шукаць тыя выданні?*

— Найбольш супрасльскіх выданняў знаходзіцца ў бібліятэках Вільні. Акрамя таго — у Ленінградзе, Маскве, Кіеве, Львове. Надзвычай рэдкія і каштоўныя старадрукі знаходзяцца ў манастыры на святой гары Афон у Грэцыі...

*— Ці Супрасль — гэта выключна цэнтр рэлігійнага кнігадрукавання?*

— Абсалютна не. У пазнейшы перыяд, скажам, у XVIII стагоддзі шторaз часцей выпускаюцца кнігі свецкага зместу. Вядома, тады ўжо пачынае пераважаць кнігадрукаванне на польскай мове. Прыкладам, з Супрасльскай друкарні выйшаў польскі пераклад „Падарожжаў Гулівера". Тут таксама друкаваліся лістоўкі і універсалы Касцюшкаўскага паўстання. І рэч надзвычай цікавая — у 1789 годзе ў Супраслі быў надрукаваны ананімны зборнік для стараабрадаўцаў. Праз гэта аднаму з пецярбургскіх выдаўцаў давялося пасядзець у турме, бо яго západaзрылі ў гэтым выданні, як цяпер выявілася, зусім няслушна...

*— Колькі гадоў зойме Вам здзяйсненне „падляшскай праграмы"?*

— Цяжка сказаць. Адно, аднак, для мяне несумненнае: гэта ёсць праца жыцця, аб якой марыць кожны навуковец. Найважнейшае, што для мяне яна ўжо пачалася. Будзем паслядоўна яе рабіць.

*— Гэтага вам зычу ад цэлага сэрца. А сабе і чытачам „Нівы" — пастаяннага з Вамі кантакту, каб і мы былі інфармаваны, як ідзе Ваша праца. Бо яна ж датычыць нашай гісторыі... Дзякую Вам за размову.*

**Размаўляў Ян Максімюк**

лу сталі чуткі, якія пайшлі ў народ напярэдадні свята Праабражэння Гасподняга. Гаварылася ў іх, што ў ваколіцы Грабаркі былі раскіданы лістоўкі такога прыблізна зместу: *Urządzimy wam krwawego Spasa*.

Гукарэжысёрам *Przypowieści* быў галоўны інжынер Беластоцкага радыё Томаш Петшыкоўскі. У аўтары рэпартажу трэба ўлічыць і польскага кампазітара Кшыштофа Пэндэрэцкага, бо фрагменты ягонай „Ютрані" былі выкарыстаны як фон для цэлай аповесці.

Пры нагодзе гэтага поспеху беластоцкіх радыёжурналістаў варта адзначыць, што невыпадковы ён. Да гэтага часу высокія ўзнагароды ў падобных конкурсах здабывалі ўжо Анджэй Данільчук, Кшыштоф Кур'янюк, Станіслаў Пазнанскі, Ян Смык (22 разы!), Барбара Цірук і іншыя. У асяроддзі польскіх радыёжурналістаў прытарнаваўся погляд, што Беласток гэта самая лепшая і цвёрдая школа рэпартажу.

Колькі слоў пра беларускамоўныя перадачы „Пад знакам Пагоні". Першая перадача на беларускай мове, як успамінае ў *Беларускім календары 1978* Мацей Канапацкі, прагучала 13 чэрвеня 1958 года. Значыць, гісторыя беларускага слова на хвалях Беластоцкага радыё ўсяго на два гады каротшая за „ніўскую". Штодзённыя перадачы „Пад знакам Пагоні" пайшлі ў эфір ад 1 сакавіка 1990. Дамагліся іх дзеячы беларускай культуры пры падтрымцы дваццаці тысяч подпісаў пад петыцыяй. Сама магчымасць штодзённых перадач, як аказваецца, існавала ўжо на два месяцы да першага выпуску, але не дазволілі яе ажыццявіць вонкавыя акалічнасці. І, відаць, толькі вызваленне Юркі Ляшчынскага з кіпцюроў заходніх падрыўных радыёстанцый і ўсталяванне яго ў Беластоку надало справе колькасны і якасны ход. Рэдагаваннем перадач займаюцца сягоння тры штатныя рэдактары: Станіслаў Пазнанскі, Уладзіслаў Праховіч і Юрка Ляшчынскі — тыя самыя, якія склалі палову калектыву, што працаваў дзеля поспеху рэпартажу *Przypowieść o Świętej Górze*.

На заканчэнне яшчэ гадзіны перадач „Пад знакам Пагоні":

— панядзелак — пятніца: 8.30—8.45; 18.45—19.00 (паўтарэнне),

— субота: 8.30—8.45 — Духоўныя сустрэчы; 18.45—19.00 — Канцэрт пажаданняў,

— нядзеля: 8.00—8.30.

**Аляксандр Максімюк**

# НАШЫ КАРАНІ

**Усе народы ў розныя часы: і ў трагічныя хвіліны нацыянальнага жыцця і ў шчаслівыя дні яго росквіту звяртаюцца да свайго мінулага, каб пачарпнуць з яго прыклады і сілы дзеля падмацавання духа і абуджэння годнасці, або каб спаслацца на колішнюю непраміна́ючую веліч, якой яны дастойныя спадчыннікі і прадаўжальнікі. Нездарма ж гаворыцца: падсячыце дрэву карані, і яно засохне — забярыце чалавеку памяць пра яго мінулае і свядомасць пра сённяшняе, і ён загіне. Асабліва нам, праваслаўным на Падляшшы, неабходна заўсёды памятаць пра гэта і старанна паглыбляць свае веды пра мінулае і сённяшняе нашае Царквы на тутэйшых і суседніх з намі землях ды шанаваць памяць аб пройдзеным болей чым 1000-гадовым яе шляху. Гэта і мяне схіліла да разважанняў і роздумаў пра адыйшоўшыя ў нябыт тыя гады і стагоддзі, як'я ў гэтым куточку Славяншчыны сфармавалі нас з вамі як праваслаўных хрысціян.**

**З сённяшняга нумара „Нівы" пачынаю з вамі дзяліцца імі. Гэтыя нарысы, напэўна, не будуць усяцэла здавальняючай крыніцай нашай прагі ведаў, але маю надзею, што пры дапамозе чытачоў, іх лістоў з дапаўненнямі і заўвагамі ці пытаннямі мы разам запоўнім прабелы ў нашай гістарычнай свядомасці.**

**У добры час!**

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## 1. ПАЧАТКІ

На пытанне: калі нашыя продкі сталі хрысціянамі — дакладна і коратка адказаць надта ж цяжка, амаль немагчыма. А гэта таму, што пранікане ў гушчу славянскіх плямёнаў вучэння Ісуса Хрыста пачалося вельмі рана, ужо ў першыя стагоддзі пасля Яго Уваскрасення ў Іерусаліме. Як жа гэтак магло стацца, што з адлеглай Малой Азіі, з паўднёвага пабярэжжа Міжземнага мора Хрыстова навука даволі хутка трапіла да славянаў, у тым ліку таксама на землі сённяшняй Беласточчыны? — запытае хто-небудзь з чытачоў.

Са Свяшчэннага Пісання мы ведаем, што на Пяцідзесятніцу, ці як у нас называюць — Тройцу або Сёмуху, на вучняў сышоў Дух Святы, і яны згодна з воляй Божай разышліся ў розныя краіны, прапаведвалі Хрыстову навуку і хрысцілі людзей. Да апосталаў далучаліся дзесяткі і сотні новых вучняў, да іх прыходзілі новыя натоўпы прыхільнікаў. За адзін дзень Апостал Пётр, напрыклад, навярнуў на веру хрысціянскую каля трох тысяч чалавек. Такім чынам Добрая вестка хутка пашыралася па ўсіх краінах Міжземнага, а затым і Чорнага мораў, усё глыбей пранікала ў глыб Еўропы, Азіі і Афрыкі.

І хто-небудзь можа запытаць: а ці магло здарыцца так, каб нехта з Апосталаў або іхніх вучняў наведаў славянскія землі? Такое здарэнне мала верагоднае, але і яго цалкам адкінуць нельга. Старажытныя хронікі данеслі да нас легенду, што хрысціянства было прынесена на ўсходнеславянскія землі ўжо ў І стагоддзі Апосталам Андрэем Першазваным, які навуку Хрыстову прапаведваў у Скіфіі. Апостал Андрэй, як кажа легенда, паставіў крыж на кіеўскіх пагорках і прадказаў, што на іх будзе красавацца вялікі горад і „заяснее ласка Божая". Іншая легенда паведамляе, што пашырэннем хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях займаліся Апостал Павел і яго вучань Андронік.

У гэтых легендах магло захавацца зерне праўды. А гэта таму, што за многія сотні гадоў да Нараджэння Хрыста быў пракладзены міжнародны шлях, які вёў з пабярэжжа Балтыйскага мора па рэках Вісле, Бугу, Мухаўцы, Прыпяці і Дняпры ў Чорнае мора, а з яго ў Міжземнае мора. Побач з гэтым шляхам былі таксама іншыя: па рэках Одры, Мараве, Дунаі або па Нёмане, Беразіне і Дняпры. Усе яны мелі розныя адгалінаванні і накірункі, між іншым, з Віслы па Нарве, Ясельдзе, Прыпяці і Дняпры. Гэтыя шляхі былі вельмі рухлівыя, многалюдныя, вандравалі імі купецкія караваны, везучы з поўдня розныя каштоўныя вырабы, а з поўначы нявольнікаў, футры, бурштын і іншае. Паўз іх пасоўваліся плямёны і народы ў пошуках лепшых зямель для жыцця, ехалі і ішлі маладыя людзі, каб наняцца за вояў у аграмаднай арміі Рымскай імперыі або вярталіся з воінскай службы ў свае родныя мясціны, хаваючыся, беглі з чужыны нявольнікі і палонныя. І якраз гэтымі шляхамі гэтыя людзі неслі на славянскія землі, у тым ліку і на нашыя Пабужжа, Панароўе і Панямонне першыя чуткі і звесткі пра хрысціянства, пра адзінага Госпада Бога і Яго Сына Ісуса Хрыста.

З асаблівай прачуленасцю расказвалі сваім родным і аднапляменцам пра хрысціян, іх веру, паводзіны перш за ўсё нявольнікі, якім удалося ўцячы з чужыны, а таксама бедныя акалечаныя ветэраны-воі, якія не спазналі шчасця і не здабылі багацця на службе ў рымскіх легіёнах, ды вярнуліся ў айчыну знявечаныя і ўбогія. Таму што навука Хрыстова заўсёды найбліжэйшая сэрцу людзей бедных, паніжаных, пакрыўджаных.

**Мікола Гайдук**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, што гэта такое, што ў апошні час усёй маёй сям'і і мне таксама сняцца нейкія, здаецца, нядобрыя сны. Пачну ад сябе. Я апякуюся ўнукамі (дачка заграніцай). Сніцца мне, што стаю я на кухні і раптам праз кухоннае акно вываліўся мой старэйшы ўнучак. Я яшчэ паспела схапіць яго за руку. Трымаю моцна, але ўсё цяжэй мне. Стараюся як найніжэй яго спусціць, каб лягчэй было яму падаць (жывем мы на другім паверсе), але рука мне млее і я з вялікім страхам пускаю яго. І раптам чую нейкі голас на панадворку: „Яму нічога не сталася". Тут і прачнулася.

Дачцэ, што знаходзіцца часова заграніцай, прыснілася, што ў яе зубы напалавіну знішчаныя. Як бы з'ела іх. Але яны белыя, прыгожыя, няма ніякай крыві. І яна думае, як жа іх датачыць, каб яны сталі нармальнымі? Так перанялася тым сном, што аж назаўтра пазваніла мне на работу.

Другой дачцэ прыснілася, што яна разам з той з заграніцы маюць недзе ехаць поездам. Чакаюць поезда, а ён паехаў і яны асталіся.

Мужу майму снілася, што таксама чакаў поезда, а ён уцёк.

Усе сны сніліся амаль адначасова.

**Анна**

Анна! Сны сапраўды нядобрыя і прадвяшчаюць нейкую небяспеку. Нешта з некім у вашай сям'і можа кепскае здарыцца. Мо нейкая хвароба. Толькі цяжка ў кантэксце гэтых сноў меркаваць, з кім з вас гэта здарыцца. Найбольш у гэтым усім прадстаўляецца твой старэйшы ўнучак. Але ж і іншым сніліся сны, гаворачыя аб нейкай хваробе (сон тваёй дачкі з заграніцы пра напалавіну знішчаныя зубы) або прынамсі аб нейкім смутку (сны мужа і другой дачкі аб ад'ехаўшых паяздах).

**Астрон**



**БАРАН** (Польшча). 44 гады. Не асабліва прыгожы, нялёгкага характару, але з добрым сэрцам. Хацеў бы яшчэ раз спрабаваць шчасця са згодлівай, працавітай праваслаўнай жанчынай.

✲

**МАРК** (Беласточчына). 21 гадоў. Вясёлы, рашучы, жывы. Пазнаёміцца з мілай паненкай з Беларусі.

✲

**КРАПКА** (Беласток). 30 гадоў. Шукаю праўдзівых сяброў, якія перамогуць маё адзіноцтва.

✲

Чытачам, якія хацелі б даць аб'яву ў рубрыку „Вянок", паведамляем, што ў лісце трэба падаць дакладны адрас і псеўданім. Просім зазначыць, ці за карэспандэнцыяй на ваша імя прыдзеце ў рэдакцыю, ці выслаць вам яе па пошце. Абсалютная сакрэтнасць забяспечана.

## З мінулага

### ЗАМЕСТ НЯБОЖЧЫКА ЧОРТ ХОДЗІЦЬ

**Перад другой вайной дзяўчаты з Семяноўкі хадзілі збіраць ягады ў тую частку пушчы, якая цяпер знаходзіцца на тэрыторыі БССР. Аднойчы апынуліся непадалёк Тушамлі. Захацелася ім піць. Зайшлі ў першую хатку ад лесу.**

**Хатка ледзь трымалася, а жыла ў ёй старэнькая бабулька.**

**— Вы адзінокая? — спытала Наста.**

**— Але, — сумна адказала бабулька.**

**— А што, у вас сыноў не было?**

**— Былі ў мяне сыны і дочкі, але ўсе паўміралі. Быў таксама муж. Аднойчы прастыў ён і памёр на запаленне лёгкіх. Я вельмі перажывала. Часта хадзіла на магілу і прасіла: „Устань, прыдзі дзяцей гадаваць".**

**Аднойчы позна вечарам прыйшоў мой „муж". Я не баялася. Пачалі мы з ім жыць. Толькі вось з чым бяда: ніхто яго не чуў і не бачыў, толькі адна я. Нават дзеці пыталі мяне: „Мама, з кім гэта вы гаворыце?"**

**Усе глядзелі на мяне як на ненармальную. Так прайшоў год.**

**„Прабач, але я ўжо мушу ісці", — сказаў мне „муж". Ты не затрымлівай мяне. Больш не магу". Пацалаваў мяне і пайшоў у дзверы. Я кінулася яму ў ногі. Прасіла, рукі і ногі цалавала, каб застаўся. На мой крык выбеглі дзеці. Ён са злосці піхнуў мяне так, што я паляцела некалькі метраў, а дах хаты спаліў.**

**Дзеці ад страху хутка памерлі, а я доўга хварэла. Хату пакрыла новай страхой і так жыву адна.**

**АЎРОРА**

# Песня пра Белага Мядзведзіка

**(Працяг са стар. 7)**

адно імкненне, так што нават смерць — няважная? Можна забаўляцца ў волатаў, якім мора-акіян па калена, і не супрацівіцца ім ні машына, ні дзяўчына, ні замок... Сябры апладзіруюць: вось наш хлопец! А цяпер што — нахлябтаўся, нажорся ці даў у вену? Хочаш забыцца, што навокал існуе сапраўднае, цудоўнае жыццё і, калі б ты захацеў, усё мог бы пачаць нанава?..

— Не паможаш ужо мне ні ты, ні хто іншы. Я так б'юся...

— Ды гэта ж барацьба з самім сабою, сапраўдным табою. Сядзь, ляж, падумай цвяроза. Дыхай глыбока. Гэта нічога, што тваё цела дрыжыць — яно тваё, і можаш яго не толькі забіць. Можаш яго вылечыць — каханнем, верай, надзеяй...

— Не літуйся нада мною і не гавары як міласэрны ксёндз! Мала табе даказалі, што няма чаго верыць людзям?!..

Заўтра зноў пазвоніць мне мама Белага Мядзведзіка. Яе мяккі, мілагучны голас будзе дзякаваць мне, што я ёсць. А потым ён зноў будзе гаварыць мне, што не хоча ўжо жыць. Ці мне кроў яму сваю пераліць? Яна мая, беларуская, палявая і лясная, чыстая і наіўная, веруючая ў жыццё. Ці доўга нам жыць, Белы Мядзведзік? Тваю кроў атруціў свет, маю ён вып'е. Не шкадаваць нам яе, святой крыві?

**Міра Лукша**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, ці ведаеш, што пажаніліся мы з вялікага кахання, а сёння ўжо нават і не ведаю, што пра гэта думаць. Мужу майму 35 гадоў, мне — столькі ж, маем здаровых дзетак і ўсё, здавалася б, магло быць добра, калі б не гэтая яго залішняя кампанейскасць. Любіць ён з сябрамі выпіць чарку-другую, дык часамі пасля працы затрымліваецца або ідзе з некім да яго дахаты. Мяне гэта ўсё вельмі дражніць. Я сяджу ў хаце, выхоўваю дзяцей, вару абеды, усё купляю, прыбіраю, мыю яму кашулі, а ён бы сабе толькі гуляў...

Аднойчы пазваніў мне з працы і сказаў, каб я не непакоілася, бо ён прыйдзе крыху пазней. А калі што якое, дык можна пазваніць яму. І падаў нумар. Я чакала да дзесятай вечара. Мой муж не паяўляўся. І нервы мае не вытрымалі. Я схапіла тэлефонную кніжку, пачала маланкава гартаць прыватныя нумары. І як жа! Знайшла. Побач з нумарам было напісана прозвішча абанента і адрас. Доўга не думаючы, я апранулася і выйшла з дому. Дзеці ўжо спалі, і я вырашыла, што нічога з імі не здарыцца, калі я паеду і праверу, што ў гэты час робіць іх бацька. Узяла таксі, вельмі хутка была на месцы. Калі я пазваніла ў незнаёмыя мне дзверы, на парозе паявілася даволі маладая гаспадыня гэтай кватэры і ўпусціла мяне. Гаспадыняй была супрацоўніца майго мужа. У яе ў гасцях было яшчэ некалькі асоб з мужавай працы. Усе сядзелі за сталом, нешта там выпівалі і закусвалі. Калі я ўвайшла, гаспадыня і мяне запрасіла да стала. Мне стала вельмі няёмка. Усё ж такі прыйшла вось у чужую хату, без ніякага запрашэння і ўсе ж разумеюць, што прыйшла я праверыць майго мужа. А там не было нічога страшнага. Гэта ў маім хворым уяўленні адбываліся там розныя эратычныя сцэны. Гутарка ішла ў асноўным на службовыя тэмы. Так выглядала, што праца іхняя яшчэ працягнулася. Разам з мужам мы праз гадзіну вярнуліся дахаты. Вядома, была калатня. Муж упікнуў мяне, што я нарабіла яму сораму, а мне было і сорамна за сябе, і ўсё роўна брала злосць. Чаму не ідзе адразу дахаты? Няўжо не хочацца яму глянуць на сваіх дзяцей? А мо памог бы і мне ў чымсьці? Дзеці ж амаль не бачаць бацькі. Калі ён выходзіць на работу, яны яшчэ спяць, а калі вяртаецца — ужо спяць. Ну, і што мне з таго, што ён цэлы дзень абмяркоўвае службовыя справы, ды яшчэ канчае пры паўлітры?! Я хацела б, каб мой муж быў заўсёды пры мне, разам з сям'ёй. Іншага жыцця сабе не ўяўляю. А што ты мне можаш параіць, Сэрцайка?

**Альжбета**

Альжбета! Ну што ж, разумныя жонкі гавораць, што мужчыну трэба трактаваць, як сабаку: добра карміць, не дражніць і нанач выпускаць! Мо ты не ведала пра гэта і замоцна трымала яго каля сябе? А цяпер вось як сарваўся — дык як з ланцуга. Цяпер шукай ветру ў полі! Трэба было адразу звяртаць увагу на разумныя рады. А ты занадта яго трымала ля сябе, вось і пératрымала.

Думаю, аднак, супакоілася ты крыху, убачыўшы, што прабывае ён сярод сваіх калег па рабоце. Маленькая ўвага тут: на рабоце таксама можа знайсціся дзяўчына, якую сёння ў нас называюць модна: „бюрва".

**Сэрцайка**



### РЫЗОТТА З БАЧКОМ

На 20 дэкаў рысу ўзяць 15 дэкаў капчонага бачку, 3 шклянкі булёну, 3 струкі папрыкі, 3/4 шклянкі памідорнага перацёру, 4 лыжкі пасечанай цыбулі, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац, некалькі сасісак.

Перабраць і памыць рыс, асушыць яго. Зварыць на булёне (2 шклянкі). Бачок дробна нарэзаць, крыху падсмажыць, дадаць ачышчаную і дробна нарэзаную папрыку, заліць гарачым булёнам. Варыць на невялікім агні пад пакрыўкай мінут 20, памешваючы. Дадаць памідорны перацёр, дробна пасечаную цыбулю і пятрушку. Перамяшаць са звараным рысам, дадаць па смаку солі і перцу. Уставіць мінут на 15 у гарачую духоўку. Палажыць на падагрэтую талерку, аблажыць навокал падпечанымі сасіскамі. Можна дадаць нейкую салату.

### ЗАПЯКАНКА З ГАРОДНІНАЙ

На 1 шклянку рысу трэба ўзяць шклянку малака, шклянку вады, паўлыжкі масла, 1 кг гародніны (морква, пятрушка, сэлер, пор і цыбуля), паўшклянкі алею, 20 дэкаў сцертага на бурачанай тарцы жоўтага сыру, 2 яйкі, соль, перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Рыс перабраць, памыць і ўкінуць у гарачую ваду з малаком і маслам, зварыць. Калі вадкасць выпарыцца, уставіць накрыты посуд з рысам у каструльку з кіпячай вадой. Памытую гародніну абабраць, спаласнуць, нарэзаць макаронікам, даліць алею і некалькі лыжак гарачай вады. Тушыць пад пакрыўкай на невялікім агні. Калі гародніна будзе яшчэ не зусім гатовая, перамяшаць яе са сцертым сырам і яйкамі, а тады са звараным рысам. Падрыхтаваную масу пераважыць у формачку ці каструльку, змазаную тлушчам. Запячы, устаўляючы ў гарачую духоўку. Гатовую страву пералажыць на талерку, пасыпаць пасечанай зялёнай пятрушкай. Падаваць з грыбным ці таматным соусам і салатай.

**Гаспадыня**

# Зорка

## старонка для дзяцей



Снег блішчыць, як халодная сталь... Фота В. Волкава

## АГОНЬ, ВАДА І СУМЛЕННАСЦЬ

(італьянская казка)

Сустрэліся аднойчы ў дарозе Агонь і Вада. Агонь не любіць сядзець на месцы. Нават калі яго замыкаюць у печы, ён толькі і думае, як бы выскачыць. Вада таксама непаседа, вечна некуды імкнецца. Вось яны і парашылі прагуляцца ў вольную хвіліну.

Толькі яны прывіталіся, бачаць — ідзе Сумленнасць.

Здзівіліся Агонь і Вада, ніколі раней яны Сумленнасці на дарозе не сустракалі. Не такая ж гэта лёгкадумная пані, каб бегала з месца на месца. Яны ж не ведалі, што сёння ёй давялося пакінуць аднаго чалавека, які зрабіў нягодны ўчынак.

— Пані Сумленнасць, — сказалі Агонь і Вада, — ці не акажаце нам гонару, каб пагуляць разам з намі?

— Дзякую за запрашэнне, — адазвалася Сумленнасць. — Я перакананa, што гэта будзе прыемнае падарожжа. Ды, прабачце, у мяне такі звычай — заўсёды ведаць, чым займаюцца мае спадарожнікі.

— О, не непакойцеся, пані Сумленнасць, — запярэчыла Вада, — вам не давядзецца саромецца таго, што вы ідзеце са мною поруч. Я паю вадой прагнучых, мыю, сціраю, паліваю палі і рухаю млынавыя камені. — Вада цурчала праўдзівую праўду. Яна не сказала толькі аб тым, што часам яе цурчанне замяняецца ў аглушаючы роў, і тады яна рве платы і дамбы, залівае цэлыя сёлы і разбівае ў шчэпкі караблі. Ды каму ж прыемна гаварыць аб сабе такое, ды яшчэ пры першай сустрэчы.

— А я, — сказаў Агонь, — асвятляю і абаграваю хаты, вару абед і памагаю кавалям каваць жалеза. — Агню не хацелася паказацца перад Сумленнасцю горшым чым Вада. Таму ён таксама аб сім-тым не ўспамянуў. Напрыклад, аб тым, што, разгуляўшыся, можа спаліць цэлую вёску або, упаўшы з неба, раскалоць стары, паважаны дуб, які стаяў бы яшчэ трыста год.

Сумленнасць, якая была вельмі патрабавальная, але даверлівая, прыйшла ў захапленне ад такіх спадарожнікаў.

— Хадземце ж, сябры, гуляць утрох! — усклікнула яна.

— Пастойце, — сказаў Агонь. — У дарозе хто-небудзь з нас можа павярнуць убок, або застацца ззаду. Трэба дамовіцца, па якім прыкметам мы адшукаем адзін аднаго. Мяне вось здалёк можна пазнаць па дыме, бо няма дыму без агню.

Вада сказала:

— Не шукайце мяне там, дзе расліны пажоўклі і пахіліліся, дзе зямля патрэскала ад сонца. Я там, дзе івы, вольха і высокая зялёная трава.

— А што датычыць мяне, — прамовіла Сумленнасць, — то ў мяне няма спецыяльных прыкмет. Калі хочаце дружыць са мной, пастаянна сачыце, каб я не згубілася. Захоўвайце мяне, як сваё адзінае вока. Бо такая мая дзіўная ўласцівасць — хто мяне раз згубіць, той ніколі не знойдзе зноў.

І Сумленнасць, адзіная з усіх, сказала чыстую праўду, нічога не прапусціла.

## Сябры

— А цяпер ты, Марыся, ідзі да дошкі, — загадала настаўніца.

Марыся, хаця крыху хвалявалася, задачу рашала добра, не спяшаючыся, але Янка, які сядзеў за першай партай, не вытрымаў і падказаў дзяўчынцы, чым яе моцна збянтэжыў.

— Хто гэта падказаў? — настаўніца ўстала ад стала і сурова паглядзела на хлопчыкаў з пярэдняй парты. Вучні ўсталі і апусцілі галовы.

— Абодва падказалі?

— Не, — ціха сказаў Віктар.

— Не, — яшчэ цішэй паўтарыў Янка.

Настаўніца паглядзела з дакорам. Вінаваты быў Янка, але ён маўчаў. Ён успомніў, як было калісьці з пяцікласнікам Федзем. Аб ім пісалі ў насценгазеце, выклікалі бацькоў за тое, што скінуў кветкі з падаконніка на калідоры. Янка стаяў моўчкі. Яго мама хоча, каб ён добра вучыўся, быў паслухмяным, ветлівым і талковым. З якой радасцю глядзіць мама на пяцёрку ў дзённіку! А цяпер — што ён зрабіў? Скажуць маме, што ён сваволькі! Як ён гляне ёй у вочы? Не, гэтага не павінна быць!

Настаўніца цяпер так востра паглядзела на яго! Яна не адпусціць, пакуль не прызнаешся і не папросіш прабачэння... Што ж рабіць? Янка глянуў у бок суседа. Іх вочы сустрэліся: „Ратуй!". Віктар і Янка — сяб-

(Працяг на стар. 10

Уладзімір Мацвеенка

## ЗАГАДКІ

### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

50

Металёвы Харытон
Працягнуў сваю руку
І падняў аж дваццаць тон
Бурага жалезняку.

Ля яго магутны КрАЗ
Грузы прыняць гатовы.
Раз сыпнуў — і ўжо якраз.
— Падганяйце новы!

51

Пілавінне рассяваю
І ў час працы я спяваю.
Лес заўжды мяне чакае,
Адгадай, хто я такая?

52

За мармышку хаваецца,
На жылцы целяпаецца,
І бывае, незнарок
Яго схопіць печкурок.

53

Параход сам не хадзіў,
Я яго рукой вадзіў.
Параход ішоў па хвалях.
Як прайшоў — яны прапалі.

54

Б'е яго спартсмен ракеткай,
Ён не крыўдзіцца за гэта
І ніколі ён не плача:
Ні калі ляжыць ці скача.

Адказы на загадкі знойдзеш у наступным нумары.

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 45. Цвыркунок. 46. Певень. 47. Парсюк. 48. Вялікая Мядзведзіца. 49. Вожык.

## Для самых маленькіх

Надзея Сторажава

### ЗАЙЧЫК

Адмарозіў зайчык шчокі
І пытаецца ў сарокі:
— Дзе ўзяць мазі-мазі-мазі?
У-у-у... зіма-зіма-зіма!

### КАЗА

Не надзівіцца каза:
— От лаза-лаза-лаза!
— Дзе, якая зала-зала!
Ты пра што, каза, казала?

### КАБ НЕ ЎЛЕЗЛІ ВАЎКІ

Расфарбую ярка замкі
Для сябе і для Аксанкі,
Намалюю замкі,
Каб не ўлезлі ваўкі.



# Малюнкі школьнікаў



*Малюнак Андрэя Дамброўскага са школы ў Храбалах.*

#  Паглыбляй  свае веды 

## СЛОНКА

Слонка (вальшнэп), гэта птушка сям'і бакасавых. Выступае ў Еўразіі ад Вялікабрытаніі і Францыі да Сахаліна і Хакайда. Гняздуе ізалявана на Каўказе, у Гімалаях, Азорскіх і Канарскіх астравах, на Мадэйра. Насяляе лісцевыя і мяшаныя лясы з развітым падлескам і вільготным подсцілам, з лужынамі, балоцінамі, уздоўж ручаёў, балот і на лясных астравах сярод іх. Корміцца пераважна чарвякамі, смаўжамі, насякомымі і іх лічынкамі, якіх адшуквае ў подсціле і глебе.

Даўжынёй слонка каля 35 см, вагі 200—315 г. Апярэнне спіны рыжавата-бурае, з цёмнымі і светлымі стракацінамі, брушка рыжавата-шэрае, з папярочным бурым малюнкам. Лоб і пярэдняя частка цемя попельна-шэрыя, на цемі і патыліцы шырокія чорныя палосы. Дзюба доўгая, ногі адносна кароткія, шаравата-ружовыя. Слонка — скрытая, маўклівая птушка. Прылятае ў канцы сакавіка — першай палавіне красавіка. Характэрны такавы палёт слонкі: птушка ляціць на ўзроўні верхавін дрэў узроўж узлескаў, высечак, прасек, лясных дарог з крыкам „оок... оокпссі, пссі" і хорканнем. Гняздо будуе самка на зямлі, у выемцы каля пня, ствала дрэва, сярод травы, радзей адкрыта, з сцяблоў травы, лісця, пацярухі. Яйкі складае слонка ў канцы красавіка, часам двойчы за год, — шаравата- або вохрыста-белыя, з рыжаватымі і шараватымі стракацінкамі, наседжвае 20—24 суткі. Птушаняты вылятаюць з гнязда ў канцы мая. Пры небяспецы самка можа пераносіць птушанят у іншае месца. Адлятае слонка ў канцы верасня — кастрычніку. Зімуе слонка на поўдні Еўразіі і ў Паўночнай Афрыцы.



# Вясёлы куточак

— Тата, ты ўмееш усё выправіць? — пытаецца ў бацькі Пеця.

— Так, сынок! Я ўсё ўмею!

— То спрабуй увапхнуць усю зубную пасту ў цюбік, я на яго толькі што наступіў!

✲

— Пані Кавальская! — крычыць Пеця суседцы. — Ваш сабака ганіць нейкага хлопчыка на веласіпедзе!

— Гэта немагчыма! Наш Бобік не ўмее ездзіць на веласіпедзе!

✲

Пеця вярнуўся са школы вельмі сумны.

— Пэўна, двойка? — паглядзела на яго мама.

— Не! Я пасварыўся з Колем. Канец нашай дружбы!

— Нічога страшнага. Знойдзеш іншага сябра...

— Ага... Але не ў кожнага сябры маці працуе на фабрыцы цукерак!

✲

— Божа мой, Петрык! — злуецца маці. — Ізноў ты прынёс двойку!? Калі будуць пяцёркі?

— Наша пані сказала, што пры нас ужо забыла, як трэба напісаць „пяць"!

**Ніна Галіноўская**

# Я САМ!

**Абуваецца Андрэй,**
**Мама кажа:**
**— Сын, хутчэй!**
**— Вінаватыя шнуркі,**
**Бо выслізваюць з рукі.**
**Мама кажа:**
**— Памагу,**
**Дай мне правую нагу.**
**— Сам усё зраблю я, сам.**
**Зараз рады дам шнуркам.**
**Я абуюся спачатку.**
**— Не паспееш на зарадку.**
**Я, Андрэйка, памагу.**
**— Не спазнюся, забягу.**
**Сонца ў небе. Ані хмаркі.**
**Крочаць двое вельмі шпарка.**
**Гэта мама і Андрэй.**
**І за ўсіх ён шчаслівей.**
**— Мама, праўда, я — вялікі,**
**Сам абуў я чаравікі.**
**Сам дайду і да дзетсада.**
**І за сына мама рада.**

# Пазнаёмімся

БССР, Мінская вобласць, Маладзечанскі раён, п/о Краснае, вул. Лясная, д. 31, скр. 74. Праневіч Каця (12 гадоў).

* ✲ *

БССР, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, п/о Краснае, вул. Лясная, д. 27, скр. 54. Турэмская Таня (12 гадоў).

* ✲ *

БССР, 220018, г. Мінск, вул. Якубоўскага, д. 54, кв. 28. **Наумчык Максім** (11 гадоў).

* ✲ *

Молдова, 278200, г. Бельцы, ул. Жданова 7/70. **Харконица Анджела** (14 гадоў).

# Сябры

**(Працяг са стар. 9)**

ры. Разам катаюцца з горкі на лыжах, ходзяць на рэчку, у лес... Віктар падняў галаву і сказаў:

— Гэта я падказаў.

— Гэта дрэнна, Віця, што падказваеш, — абурылася настаўніца. Падумала хвілінку і дадала: — Нешта ты, Віктар, зрабіўся нейкі непаслухмяны на ўроках, і трэба будзе пагаварыць з тваім бацькам!..

Далей урок працягваўся спакойна. Пасля апошняга званка Янка пачаў складваць кніжкі. Заўсёды сябры ў гэты момант дагаворваліся на прагулку, але сёння моўчкі спяшаліся дадому.

— Можа, настаўніца нічога не скажа бацькам? — супакойваў сябру Янка.

Надвор'е станавілася неспакойным. Вецер свістаў у голлі дрэў, у правадах, сёк дробны, халодны дожджык, падаў за каўнер. Дома Янка не мог узяцца за ўрокі, супакоіцца і рашыць нават самую простую задачу. Яго нешта мучыла. Калі мама паставіла на стол абед, хлопчык хутка апрануўся і кінуўся да дзвярэй.

— Я хутка вярнуся, — сказаў маці і выбег з хаты.

Дождж не сунімаўся, гусцеў. Вецер то налятаў на дрэвы, выкручваючы галіны, то сціхаў, лёгка іх пагойдваючы, то кідаў дажджом у твар Янку. Калючы вецер. Хлопчык не зважаў на яго, крочыў шпарка, шырока размахваючы рукамі.

Настаўніца была на кухні. Янка доўга выціраў боты, потым, пастукаўшы ў дзверы, увайшоў. Спыніўся непадалёку ад стала.

— Гэта я, а не Віктар падказаў Марысі, я хачу...

— Сядай, Янка, за стол, частуйся варэннем, — з усмешкай сказала настаўніца.

Хлопчык доўга расказваў ёй, як дома не мог узяцца за працу, як ён не хоча, каб іншы за яго расплачваўся...

— Усё вельмі добра. Дзякуй табе, Янка, за адвагу і шчырасць, — ветліва развіталася са сваім вучнем настаўніца.

Ад гэтага яму стала так радасна, як ніколі.

**Янка Целушэцкі**

# А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



*Мышка хоча выйсці са сваёй норкі, але падпільноўваюць яе драпежнікі. Пакажыце мышцы бяспечную дарогу.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

# ПАРОДЫІ

## ПОБАЧ З ЖАНЧЫНАЙ

*Прабач, прыгожая жанчына,*
*Што я сцішаю свой парыў,*
*А вось Ясенін — малайчына!*
*Ён так ніколі не рабіў.*

**Леанід Дранько-Майсюк**

Жыццё такое вытварае!..
Жанчына-кветка. Побач я.
Яе вачыма абдымаю
І больш нічым, бо ёсць сям'я.

А вось Ясенін, той быў смелы, —
Ён мне вядома не раўня, —
Ён не сядзеў бы ачмурэла
Ля прыгажуні аж да дня.

І Пушкін бы ці быў тут дубам?
Магчыма, ён бы не зважаў,
Што бог жыццё азмрочыў шлюбам,
Як кажам мы, захамутаў.

Ён незвычайным быў паэтам
І нават ножкі маляваў,
А я, уткнуўшыся ў газету,
На іх праз дзірку пазіраў.

Але адно я цвёрда знаю:
Крылоў сказаў бы:
— Как сидит!
И как красавица страдает!
Но Лёня прав: повсюду СПИД!

**Янусь Малец**

## НЕЦЭНЗУРНЫЯ ЧАСТУШКІ

Калыма ты, Калыма,
Дзіўная планета!
Дванаццаць месяцаў зіма,
Астатняе — лета.

Нашы спутнік запусцілі,
Выйшаў на арбіту.
У яго Лайку пасадзілі,
Трэ было — Мікіту.

Памянялі хулігана
На Луіса Карвалана.
Дзе б знайсці такую б...,
Каб на Брэжнева змяняць?

Шышка старая ляжала
За ваколіцай сяла.
Дзеўка шышку пагладзіла —
Шышка ўстала і пайшла.

Выязджалі мы на БАМ
З чамаданам скураным.
А назад вярнуліся з БАМа
З хрэнам адмарожаным.

**„Огонёк"**

# НІЎКА

— Гэта тое, чаго я апасаўся: штучны снег.

## КАЛІ Б...

Калі б выпадкова нейкія зорныя прышэльцы надумаліся ўступіць у кантакт з зямлянамі, дык, пэўна, яны б вельмі падзівіліся з людзей.

Бо:

— людзі абаграваюць так сабе акаляючае асяроддзе,

— будуюць атамныя электрастанцыі, не ўмеючы імі кіраваць,

— вельмі шматслоўныя, пра што сведчаць шматлікія сходы, а таксама тэле- і радыёперадачы,

— абараняюць кандыдацкія і доктарскія дысертацыі не з мэтай сацыяльнага, культурнага і навукова-тэхнічнага прагрэсу, а дзеля прэстыжу і павелічэння колькасці грошай,

— гадзінамі і днямі прастойваюць у чэргах па французскія духі, відэамагнітафоны, якія для жыцця не вельмі патрэбны,

— гандлююць усім, чым толькі можна, не думаючы пра нашчадкаў і заўтрашні дзень,

— атручваюць акаляючае асяроддзе, падманваючы самі сябе, што змагаюцца за чысціню гэтага асяроддзя,

— плодзяць непатрэбныя паперы,

— з нянавісцю пагладаюць на суседа, які жыве лепей, нават калі той дасягнуў усяго сваёй працай і ўласнымі рукамі,

— начальнікі стараюцца падагнаць пад адзін капыл падначаленых, вылучаюць дурнейшых, каб на іх фоне здавацца надта ж разумнымі,

— думаюць адно, кажуць другое, а робяць трэцяе, з-за чаго з імі літаральна ні пра што ўсур'ёз дамовіцца нельга.

Такім чынам, упэўнены, прышэльцы б абавязкова выразлі, што ніякага кантакту не можа быць, бо разумнага жыцця на Зямлі няма.

**Уладысь Цвяткоў („Вожык")**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| 3604. | Васіль Антыпюк (Бельск-Падляшскі) | — 12000 зл. |
| 3605. | Тамара Русачык (Бельск-Падляшскі) | — 12000 зл. |
| 3606. | Надзея Міхальчук (Гайнаўка) | — 22500 зл. |
| 3607. | Віктар Стахвюк (Беласток) | — 20000 зл. |
| 3608. | Аляксандр Іваноўскі (Беласток) | — 20000 зл. |
| 3609. | Уладзімір Парфен (Дуброва-Беластоцкая) | — 20000 зл. |
| 3610. | Міхась Вішанка (Мікулічы) | — 20000 зл. |
| 3611. | Анна Бжазоўская (Бельск-Падляшскі) | — 20000 зл. |
| 3612. | Ян Мордань (Бельск-Падляшскі) | — 20000 зл. |
| 3613. | Галіна Рамашка (Беласток) | — 20000 зл. |
| 3614. | Альжбета Шульжык (Беласток) | — 20000 зл. |
| 3615. | Марыя Паўлючук (Беласток) | — 20000 зл. |
| 3616. | Валянціна Вярбіцкая (Беласток) | — 20000 зл. |
| 3617. | Юры Зюзя (Варшава) | — 25000 зл. |
| 3618. | Ян Гаўрылюк (Беласток) | — 10000 зл. |
| 3619. | Васіль Астапчук (Беласток) | — 5000 зл. |
| 3620. | Міхась Келбашэўскі (Гайнаўка) | — 5000 зл. |
| 3621. | Мікалай Панфілюк (Дубічы-Царкоўныя) | — 20000 зл. |
| 3622. | Уладзімір Юзвюк (Беласток) | — 30000 зл. |
| 3623. | Юстын Пракаповіч (Беласток) | — 20000 зл. |
| 3624. | Кааператыўны банк у Міхалове | — 10000 зл. |
| 3625. | Марк Цыбарт (Лютомерск) | — 10000 зл. |
| 3626. | Ніна Мартыновіч (Орля) | — 12000 зл. |
| 3627. | Анатоль Мартыновіч (Орля) | — 12000 зл. |
| 3628. | Яўген Карліцкі (Беласток) | — 10000 зл. |
| 3629. | Мікалай Цэтра (Орля) | — 10000 зл. |
| 3630. | Марыя Голуб (Гайнаўка) | — 5000 зл. |
| 3631. | Міхал Голуб (Гайнаўка) | — 5000 зл. |
| 3632. | Валянціна і Сяргей Лукашукі (Бельск-Падляшскі) | — 20000 зл. |
| 3633. | Гмінная ўправа ў Гайнаўцы | — 3000000 зл. |
| 3634. | Пётр Кавальчук (Гайнаўка) | — 20000 зл. |
| 3635. | Зінаіда Якубчык (Гайнаўка) | — 2000 зл. |
| 3636. | Кірыла Лаўрыновіч (Гайнаўка) | — 1000 зл. |
| 3637. | Валянціна Паўлоўская д. Пётра (Гайнаўка) | — 10000 зл. |
| 3638. | Надзея Анджэюк (Гайнаўка) | — 12000 зл. |
| 3639. | Пётр Леўчук (Гайнаўка) | — 2000 зл. |
| 3640. | Анатоль Аксантовіч (Гайнаўка) | — 5000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

— Гэта проста здзек! — крычыць турыст. — Ваша гасцініца называецца „На беразе", а да мора пяць кіламетраў трэба ехаць на машыне!

— Не хвалюйцеся. Суседняя гасцініца называецца „Аўстралія", а да яе не менш 20 тысяч кіламетраў.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa"

ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 216-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty
I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1991 r. upływa 20 lutego 1991 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — luty — 6.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

III. Кошт падпіскі ў БССР:

— месячная — 2 руб.
— квартальная — 6 руб.
— паўгадавая — 12 руб.
— гадавая — 24 руб.

Zam. 102/91.